


ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
Цана паза Нямеччынай: ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 8 (290) | Нядзеля, 19 лютага 1956 г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 10


# Бясплодны вашынгтонскі дыялёг

Публічная апінія Захаду, якая прывязвала вялікае значэньне да Вашынгтонскай канфэрэнцыі прэзыдэнта ЗША Айзэнгаўэра й брытанскага прэм'ера Ідэна, цяпер, калі канфэрэнцыя пасьля трохдзённых нарадаў 1 лютага сёлета закончылася, не хавае свайго расчараваньня зь ейных вынікаў. Вынікі гэтае канфэрэнцыі вельмі трапна схарактарызаваў выдатны ангельскі публіцысты Рандоль Чэрчыль (сын Вінстона Чэрчыля), цьвердзячы, што вашынгтонскія гутаркі ня прынесьлі вялікае карысьці, але ня прынесьлі таксама й шкоды. Дык малая тады пацеха з такіх вынікаў канфэрэнцыі.

Канфэрэнцыя шэфаў дзьвюх англасаскіх вялікадзяржаваў, ад згоды й супрацоўніцтва якіх сяньня залежыць бясьпечнасьць вольнага сьвету, была прадпрынятая ў мамэнт даволі скамплікаванай міжнароднай сытуацыі. Узнаўленьне пагрозаў чырвонага Кітаю пад адрасам Фармозы, апошняе авацыйнае прыняцьце Булганіна й Хрушчова ў Індыі, Бірме й Афганістане ды ўзмоцненая савецкая пэнэтрацыя ў краінах Сярэдняга Ўсходу — вось найбольш чулыя пункты для абедзьвюх англасаскіх вялікадзяржаваў, хаця кажная зь іх рэагуе на іх пасвойму й парознаму. Вось-жа дзеля ўзгадненьня дзеяньня з Амэрыкай галоўна ў гэтых пытаньнях і езьдзіў да Айзэнгаўэра брытанскі прэм'ер.

На парадку дня канфэрэнцыі стаялі тры наступныя пытаньні: справа Далёкага Ўсходу, справа Сярэдняга Ўсходу і пытаньне супрацоўніцтва ў галіне атамнае энэргіі.

Абвешчаны 1 лютага камунікат гэтае канфэрэцыі й супольная дэклярацыя палітычных прынцыпаў паказваюць, што абедзьве дзяржавы асталіся й надалей пры сваіх паглядах у гэтых пытаньнях, а толькі ў некаторых менш важных справах прышлі да згоды ды ў вагульных формах выказалі сваё палітычнае крэдо.

Як ведама, становішча Вялікабрытаніі ў справе Далёкага Ўходу ёсьць дыямэтральна розным ад становішча Амэрыкі. Вялікабрытанія хацела-б, каб Амэрыка дазволіла камуністычнаму Кітаю на заняцьце прыбярэжных астравоў Кэмой і Матсу, а так-жа згадзілася прыняць у Задзіночаныя Нацыі камуністычны Кітай. Амэрыка становуча супраць гэтага. Далей Вялікабрытанія дамагаецца часьцёвага спыненьня кантролі гандлю некаторымі таварамі з камуністычным Кітаем, на што таксама ня хоча згадзіцца Амэрыка. Такім чынам у справе Далёкага Ўсходу ніякае канкрэтнае паразуменьне ня было дасягнутае.

Мала лепшыя былі вынікі нарадаў і ў пытаньнях Сярэдняга Ўсходу. Інтарэсы абедзьвюх дзяржаваў у гэтым пункце значна разыходзяцца, аб чым можа сьветчыць хоць-бы факт, што Амэрыка ня прыступіла дагэтуль да створанага Вялікабрытаніяй Багдадзкага пакту. І на цяперашняй канфэрэнцыі да гэтага пакту Амэрыка прыступіць не згадзілася. Таксама ня было ўзгодненае становішча, паза некалькімі дробнымі пунктамі, у справе ізраэльска-арабскага канфлікту. У трэйцім пытаньні вашынгтонскіх нарадаў, у справе атамнае энэргіі таксама ня было зроблена бадай аніводнага кроку напераду.

У супольнай палітычнай дэклярацыі, якая мае толькі тэарэтычнае значэньне, абедзьве дзяржавы сфармулявалі ў вельмі агульных формах свае пазыцыі ў дачыненьні да комунізму: «Мы ніколі не запачаткуем насільства .Больш таго, мы выкарыстаем увесь наш уплыў на тое, каб сьвет ня быў ускалыхнуты савецкімі намаганьнямі пашырыць старыя антаганізмы» — сказана ў дэклярацыі Такое становішча Захаду ня новае. Яно паказвае, што Захад і надалей мае стаяць **толькі** на абаронных пазыцыях і выказвае сваю згоду на статус кво, на далейшае замацаваньне падзелу сьвету на сфэры ўплываў. Ня трэба й даводзіць, што такое асьветчаньне ня перапалохае крэмлёўскіх верхаводаў, наадварот — можа іх толькі яшчэ больш заахвоціць да далейшае экспансіі.

Асобна ў дэклярацыі гаворыцца аб паняволеных народах. Дэклярацыя сьцьвярджае, што мільёны людзей, рознага паходжаньня, веравызнаньняў і традыцыяў, былі сілаю апанаваныя Савецкім Саюзам, а савецкі блёк камуністычных дзяржаваў апанаваў фактычна, шмат далейшых мільёнаў людзей. Уваднэй толькі Эўропе 100 мільёнаў людзей, якія належылі да дзесяцёх калісьці вольных народаў ,былі змушаныя, супраць іхнай волі, працаваць для большае славы й росту савецкае камуністычнае дзяржавы. Як выхад з такой сытуацыі, дэклярацыя падае: «Хочам памагчы сабе й іншым дасягнуць мір, свабоду й утрыманьне людзкіх правоў там, дзе яны загрожаныя, і іх прывярнуць мірным спосабам там, дзе яны часова страчаныя».

І гэта ўсё, што было дасягнутае на Вашынгтонскай канфэрэнцыі. У мамэнт вялікае сусьветнае загрозы і ўзмоцненай камуністычнай экспансіі ў галіне палітычнай, прапагандовай і гаспадарскай асабліва патрэбная поўная згода й супрацоўніцтва англаамэрыканскіх дзяржаваў, што стаяць на чале вольнага сьвету. Тымчасам гэтае ўзгадненьне пазыцыяў на найбольш нэўральгічных пунктах сьвету дасягнутае ня было. Таму ня дзіва, што заходняя прэса не хавае свайго незадаваленьня з вынікаў канфэрэнцыі.

Пры ўсіх адмоўных мамэнтах канфэрэнцыі мы, аднак, бачым і адзін мамэнт дадатні. Куды лепей, калі ў успомненых пытаньнях абедзьве дзяржавы ня прыйшлі да згоды, чымся каб гэтая згода была дасягнута коштам далейшых уступак Амэрыкі свайму эўрапэйскаму партнэру, як гэта бывала часта перад гэтым. Непахіснае становішча Амэрыкі на сваіх пазыцыях, асабліва ў дачыненьні да Далёкага Ўсходу, нас можа толькі цешыць.

**Л. К.**

# Вітаем «Українські Вісті»

**Сяньняшнім чыслом 19 лютага 1956 году выходзіць тысячны нумар ведамай украінскай газэты «Українські Вісті», якая паяўляецца ў Нямеччыне двойчы ў тыдзень. Выданьне тысячнага нумару няштодзённай газэты навет на бацькаўшчыне, у ўмовах паняволеньня народу, зьяўляецца не малым ужо дасягненьнем, а ў умовах эміграцыі ёсьць гэта фактам першараднае важнасьці.**

**«Українські Вісті» зьяўляюцца органам паважнай украінскай групы, якая ўваходзіць у склад Украінскай Нацыянальнай Рады, і тым самым рэпрэзэнтуюць УНРаду, украінскі дзяржаўны цэнтр, які цесна супрацоўнічае з Радаю БНР. «Українські Вісті» заўсёды прыязна й зычліва ставіліся да беларускага нацыянальна-вызвольнага руху й ахвотна інфармавалі на сваіх бачынах украінскае грамадзтва і аб нашым нацыянальным жыцьці.**

**Вітаючы «Українські Вісті» з выхадам іх тысячнага нумару, мы жадаем газэце й надалей буйна разьвівацца і плённа служыць украінскай нацыянальна-вызвольнай справе.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

# З нагоды зьезду камсамолу Беларусі

Шчасьлівая камсамольская моладзь!.. А хто можа быць нешчасьлівым у краіне, дзе «забясьпечана» пашана да чалавека? Тым больш моладзь, пешчаная самой камуністычнай партыяй.

Звычайна ўступ павінен быць прыгожым, маўляў, артыкулаў савецкае прэсы.

Бясспрэчна, як свайму маральнаму й палітычнаму існаваньню, кажны народ удзяляе вельмі шмат увагі моладзі. У гэтай мэце ён творыць арганізацыі і саюзы моладзі, праз якія яе і ўзгадоўвае. Аднак, каб не памерці, узгадоўвае сваю зьмену згодна хрысьціянскае, і наагул, паводля агульна людзкое маралі, пашаны да нацыянальных традыцыяў, да бацькоў. Падыход да ўзгадаваньня ў гэтым выпадку ёсьць чыста выхаваўчага характару, базаваны на гармоніі вычуцьця і зацікаўленьняў і, ведама, выключае ўсякі шантаж моладзі, бяссэнсовае фізычнае выкарыстаньне яе дзяржавай.

Што ўяўляе сабою камуністычнае ўзгадаваньне моладзі, якое згары адкідае ўсе вышэй-пералічаныя прынцыпы? Перадусім камсамол зьяўляецца прапалітычнай арганізацыяй. Падобныя арганізацыі моладзі іншых ідэялягічных напрамкаў забароненыя ў Савецкім Саюзе. У камсамол прыцягваюцца пятнаццаці, шаснаццацігадовыя юнакі, якіх пагляды толькі што пачынаюць фармавацца. Наплыў у камсамол моладзі старэйшага веку дыктуецца ў большасьці выпадках жыцьцёвымі патрэбамі, бо камсамольская моладзь мае пяршынство ў займаньні прафэсійных становішчаў, а гэтаксама ў здабываньні вышэйшае асьветы. Назад дорогі з камсамолу няма з загрозы, каб ня стацца «ненадзейным элемэнтам» сацыялістычнага грамадзтва. Асабістае перакананьне. такім чынам, зводзіцца да нуля і ня йграе ніякае ролі. У выніку, камсамольская моладзь становіцца сьляпым рычагом усялякіх капрызаў партыі, фактычна яна набывае статус нявольнікаў.

З узгадаваўчага боку партыя ставіць у прыклад моладзі людзей маральна роўных Паўліку Марозаву, быццам-бы ідэйных адзінак камуністычнага грамадзтва. Яны, нібы пранікнутыя сваей гістарычнай роляй носьбітаў ідэялягічнага пераўзгадоўваньня грамадзтва, могуць зрадзіць сваіх бацькоў, калі апошнія іншага перакананьня. Прыкладам, фігура Паўліка Марозава даволі нацягнутая, калі ходзіць аб забойстве хлапчука родным дзедам, затое выснаў пажаданы: Паўлік Марозаў — мартыр за ідэі камунізму, а бацькі — людзі, непажаданыя і годныя наказаньня ў сацыялістычным грамадзтве.

Ці камсамольская моладзь мае некаторыя жыцьцёвыя палёгкі? Аб матарыяльным дабрабыце, дамах адпачынку можна пагаварыць на сходках, і то выхваляцца гэтай дзіковінай, ні ў якім разе дамагацца. Магчыма там... у гатовенькім камуністычным грамадзтве. Цяпер-жа на плечы камсамольскае моладзі лягло ўсё шчасьце і няшчасьце камуністычнага «прагрэсу». Пры пасыўнасьці і апатыі старэйшага грамадзтва, што прыйшло ў выніку пастаяннае галечы, тэрору і ненасытнасьці крэмлёўскіх апартуністых, партыя сьціравала сваё «бацькоўскае» вока на моладзь, як на адзіны быццам ратунак. Выкарыстоўваючы часамі наіўнасьць гэтай апошняй і галоўна правы свайго апякунства над ей, партыя шчодра надзяляе моладзь «пачэснымі заданьнямі», годнымі толькі савецкага чалавека. Гэтага захапленьня не пералічыць: і нагляд за «бездапаможным» селянінам і работнікам; і прывіцьцё геніяльнага вучэньня Маркса-Леніна сярод «цёмнае» масы; і стварэньне баявых брыгадаў і зьвеньняў на заводах і ў калгасах, пры дапамозе якіх і сваей трыстапрацэнтовай вытворчасьцяй камсамольская моладзь магла-б паказаць іншым шлях да камунізму; і жывёлагадоўля; і угнаеньне глебы; і катаржніцтва на пустых землях; і... нарэшце вырашчваньне славутае кукурузы.

XIX зьезд камсамолу Беларусі, які адбыўся ў Менску пачынаючы ад 10-га студзеня гэтага году, прайшоў толькі пад лёзунгам «большае працоўнае дысцыпліны», «аддамо ўсе сілы для вырашэньня гістарычных пастановаў роднае партыі». Матарыяльны дабрабыт быў не заўважаны.

Згодныя з тым, што праца ёсьць пачэсным доўгам і красіць чалавека, але з маленькімі засьцярогамі: праца нявольнікаў і савецкіх катаржнікаў ніяк не падпадае пад гэтую рубрыку. А церазьмернае выкарыстаньне чалавечае сілы лічыцца праступствам, і сьведамым забойствам пры абмежаваньні мінімуму жыцьцёвых патрэбаў чалавека.

Ідэялёгія — прыгожае слова, каб толькі ня ейныя атрыбуты. Пазбаўленая гуманных прынцыпаў, прынцыпаў жыцьцёвага рэалізму, яна застаецца шыльдай, за якой можа панаваць нячуваны тэрор, галеча. Прыкрыўшыся гэтай шыльдай, а пасавецку ідэялягічным пераўзгадоўваньнем грамадзтва, камуністычная партыя намагаецце выхаваць з моладзі носьбітаў гэтае ідэялёгіі. Запраўдныя мэты гэтага адзіна прынцыповага выхаваньня камсамольскае моладзі — вырасьціць з моладзі янычараў данага грамадзтва, каб потым адных і другіх зласьліва выкарыстаць для сваіх цёмных камбінацыяў.

Як-жа цынічнай таму паказваецца прамова М. І. Калініна ў дзень дваццацігодзьдзя камсамолу, што «шчасьлівы камсамол, як многа ў цябе магчымасьцяў служыць вялікай справе Леніна-Сталіна! Якія шырокія пэрспэктывы і магчымасьці адкрыты перад табой у справе выхаваньня і фармаваньня новага чалавека! .».

**П. В.**

# Сэсія Вярхоўнага Савету БССР

30. 1. г. г. распачалася чарговая сэсія Вярхоўнага Савету Беларускае ССР. Вярхоўны Савет **тэарэтычна** найвышэйшая інстанцыя ў савецкіх рэспубліках, адказвае, прыблізна, і таксама **тэарэтычна,** парлямэнтам дэмакратычных вольных краін. У запраўднасьці-ж — і хіба для нашых чытачоў няма патрэбы прыводзіць гэтта аргумэнтаў — Вярхоўны Савет, якой-бы сабе ні было савецкае рэпублікі, не зьяўляецца нічым больш, як толькі мар'янэткавым тэатрам, запраўдныя рэжысары якога сядзяць у Крамлі.

Якія-ж **фактычна** функцыі выконвае гэты Вярхоўны Савет? Іх можна было-б зьвесьці да трох пунктаў: зацьверджаньне гадавога бюджэту, зацьверджаньне ўсялякіх указаў, што выдае Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету ў прамежках між сэсіямі і — злажэньне вернападданскага паклону партыі. Пры гэтым, зацьверджаньні, як ведама, бываюць заўсёды аднагалоснымі, а фактычна — як бюджэт, так і ўказы даўно ўжо зацьверджаныя партыяй і «дэпутату народу» застаецца толькі падняць руку ды крычаць «Да здравствует!».

У гэтай сэсіі таксама «зацьверджана» колькі ўказаў, якія тычацца пераважна рэарганізацыі выканаўчых органаў. Некаторыя з гэтых указаў патрабавалі зьменаў ці дапаўненьняў паасобных артыкулаў «канстытуцыі» БССР. Гэтак, былі зьменены ці дапоўнены: арт. 45, які ўстанаўляе склад Савету Міністраў БССР, арт. 48, у якім пералічаюцца міністэрствы БССР, і арт. 66, у якім даецца пералік аддзелаў ці ўправаў выканаўчых камітэтаў абласных саветаў дэпутатаў.

Усе рэарганізацыі, зьмены й дапаўненьні нічым не мяняюць лёсу народу. Гэтыя-ж штодзённыя будні працоўнага чалавека застаюцца паранейшаму «соцрэалістычнымі». Для ілюстрацыі іх, прывядзем колькі прыкладаў з выказваньняў самых «дэпутатаў» на сэсіі, якія былі зьмешчаны ў менскай «Зьвязьдзе» з 2 лютага г. г.. Як вядома, кажная такая прамова «дэпутата» пачынаецца ад выхваляньня дасягненьняў, потым ідзе «ле» й «аднак» ды канчаецца прырачэньнем імкненьня да новых дасягненьняў. Вось гэтыя «аднак» і «але»:

(падкрэсьленьні ў цытатах нашыя — Рэд.).

«**Аднак**» у сельскай гаспадарцы (Гомельскае) вобласьці ёсьць шмат буйных недахопаў. Галоўны зь іх заключаецца ў тым, што ўраджайнасьць збожжавых, тэхнічных і іншых культураў, а таксама прадуктыўнасьць жывёлагадоўлі ў калгасах усё яшчэ нізкая» (У Лабанка, старшыня Гомельскага абласнога выканкому).

«... **Аднак** у вырашэньні задачаў крутога ўздыму сельскай гаспадаркі ёсьць яшчэ вялікія недахопы. Шматлікія калгасы атрымалі ў мінулым годзе нізкі ўраджай бульбы й збожжавых, не забясьпечылі належны рост прадуктыўнасьці жывёлагадоўлі, яшчэ не навялі парадку ў землякарыстаньні. Шматлікія ворныя, сенакосныя й пашавыя ўгодзьдзі зарасьлі хмызьняком...» (дэпутат А. Маркаў, Менская вобласьць).

«... **Аднак** існуючая сетка мэдыцынскіх установаў яўна недастатковая й не задавальняе патрэбаў працоўных...» (дэп. Маркаў).

... **Аднак** нельга мірыцца з тым, што плян уводу ў эксплятацыю будынкаў для дзіцячых ясьляў штогод ня выконваецца...» (дэп. І. Інсараў, Менская вобласьць).

«... На працягу двух год (маладэчанскі) аблвыканком і абласны камітэт ставяць пытаньне перад міністэрствам мясцовай і паліўнай прамысловасьці аб будаўніцтве 6 торфапрадпрыемстваў. **Аднак** гэтае пытаньне да сяньняшняга дня застаецца неразьвязаным...» (дэп. Ф Маркаў, Маладэчанская вобласьць).

«... Сельгасарцель імя Леніна зьвярнулася ў Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР з просьбай аказаць ёй дапамогу набыць трансфарматар (для электрастанцыі). **Але** ў адказ атрымалі бюракратычную адпіску: «Паколькі вы няплянава пабудавалі электрастанцыю аб аказаньні дапамогі набыць трансфарматар гутаркі быць ня можа...» (дэп. В. Шэкальян, Берасьцейская вобласьць).

☆

Падобныя «аднак» і «але» можна было-б цытаваць з выказваньняў дэпутатаў у бязьмежнасьць. Папытаемся аднак, пашто тады хваліцца сваімі ўяўнымі дасягненьнямі, калі ўсёроўна нічога больш не застаецца, як толькі «аднак» ды «але»?..

# «...Старая загадка»

**Ад Рэдакцыі: Ніжэй перадрукоўваем з уплывовае амэрыканскае газэты «Нью Ёрк Таймс» (інтэрнацыянальнае выданьне з 4. II. 56) артыкул ведамага амэрыканскага публіцыстага Сульзбэргэра, у якім аўтар надзвычай трапна паказвае на запраўдную натуру расейскае імпэрыі, якое ніяк не зьмяніла бальшавіцкая рэвалюцыя.**

☆

Бязумоўна, вялізарны недавер, што існуе паміж Задзіночанымі Штатамі й Савецкім Саюзам, спрычынены нязьмернай розьніцай ідэялёгіяў свабоднага капіталізму ды кантраляванага дзяржавай камунізму. Гэта стварае зусім розныя па форме сацыяльныя структуры. Мы вытварылі гэткія асаблівыя прафэсіі, як спэцыялістаў у гандлі кока-коляй ці экспэртаў у «ажыўляньні» музычных камэдыяў. Расейцы-ж маюць ня менш асаблівых прафэсіяналаў, як, напрыклад, палітрукоў пры эстафэце.

Пры разьвіцьці гэтых дзьвюх сыстэмаў, стаецца што раз цяжэй і цяжэ грамадзяніну аднае краіны разумец грамадзтва другое. Заданьні прафсаю заў, журналістаў ці банкіраў зусім ін шыя ў Задзіночаных Штатах Амэрык чымся ў СССР. Тыя самыя словы маюц супрацьлежныя значэньні. Савецкі дзяр жаўны муж, дыскутуючы аб мірным су існаваньні, мае наўвеце больш дынамі ны й менш прымірэнчы статус, акога м ня можам сабе навет уявіць. Дэмакра

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Нацыянальныя вызвольна-адраджэнскія ідэі ў савецкай беларускай літаратуры й мастацтве

(Працяг з папярэдняга нумару)

Крытыкі даўно заўважылі наяўнасьць у беларускай літаратуры «шляхоцкіх» і «сялянскіх» плыняў, аднак гэта зусім ня былі плыні клясавых адменаў. У беларускіх мастакоў у цэнтры ўвагі стаяла адзіная беларуская сям'я, адна Беларусь, што станецца потым, як мы ўбычым, тэмаю і ў савецкім беларускім мастацтве.

Клясавы прынцып сацыяльнага будаваньня — гэта дыктатура пралетарыяту, аднапартыйнасьць, таталітарная ўлада, гатальная бюрократызацыя ўсяго грамадзкага жыцьця, культ дзяржавы, якому падпарадкавана ўсё. Культ дзяржавы ў Савецкім Саюзе пагрозьліва папярэджвае ўсіх мастакоў, што ў іхнай твэрчасьці: «няма і ня можа быць іншых інтарэсаў, апрача... інтарэсаў дзяржавы...[17]).

Усё гэта якраз разыходіцца з нацыянальна-дэмакратычнымі ідэямі.

3

Да прыходу рэвалюцыі 1917 г. беларускі нацыянальна—вызвольны рух, а зь ім і беларуская літаратура й мастацтва набылі дастаткова выбуховага матар'ялу, які толькі й чакаў на запаленьне. Наколькі ўсё гэта мела масавы характар, досыць прывесьці сьветчаньні газэтаў таго часу, што апісвалі той энтузіязм, тыя ўзрушаныя нацыянальныя пачуцьці, што праяўляліся пры кажным выпадку дэманстраваньня беларускіх літаратурна—музычных твораў, пачынаючы ад унівэрсытэцкай аўдыторыі й канчаючы вясковай хатай [18]). Падобныя імпрэзы ператвараліся ў яскрава палітычныя маніфэстацыі нацыянальнага ўздыму.

Гады 1917—1918 былі часам складаньня й масавага выконваньня беларускіх нацыянальных гімнаў. Праўда, першая спроба ў гэтым кірунку прыпадае на 1910 г., калі паявіўся гімн «А хто там ідзе» (тэкст Я. Купалы, музыка Л. Рагоўскага), але ён ня ўтрымаўся ў практыцы і ўступіў месца больш адпаведнаму для свайго прызначэньня гімну «Не пагаснуць зоркі ў небе» із словамі Я. Купалы і музыкай М. Янчука. Тады-ж у ролі гімну ўжывалася яшчэ і «Беларуская марсэльеза» («Ад веку мы спалі») на тэкст і музыку ведамага беларускага тэатральнага дзеяча Ў. Галубка. Пазьней зьявіўся й набыў папулярнасьці гімн, а хутчэй ваяцкі марш на словы М. Краўцова з музыкай У. Тэраўскага («Мы выйдзем шчыльнымі радамі»). Ужываліся й іншыя патрыятычныя нацыянальныя сьпевы, зь якіх больш трывалаю й папулярнаю была «Беларуская зямліца» (словы К. Буйлы, муз. Стэповіча).

Беларускія нацыянальныя гімны, як і іншыя патрыятычныя творы, паводля свайго ідэйнага зьместу былі глыбока нацыянальнымі і йшлі ў разрэз зь інтэрнацыянальнымі ідэямі бальшавізму. Наагул прыход бальшавікоў на Беларусі і іхныя мэты сусьветнае пралетарскае рэвалюцыі былі сустрэнутыся беларускім народам адмоўна й варожа. Я. Лёсік ў газэце «Вольная Беларусь» называў бальшавікоў «авантурнікамі», «барбарамі» [19]). З. Бядуля гаварыў, што тады Беларусы былі-б задаволены, каб навет нэгры іх вызвалілі ад бальшавікоў [20]) — гэтае «гарачае хэўры» [21]). Я. Купала, апісваючы ў сваей драме «Тутэйшыя» становішча Беларусі пад акупацыямі (нямецкай і польскай), выставіў бальшавікоў, як найбольш горкую й жудасную акупацыйную сілу. Гандаль, які рабілі саветы з Палякамі за кошт Беларусі, выклікаў гнеў і абурэньне:

«... ці доўга будзе нам заломам
Варшава панская і (хамская) Масква?»[22])

У сваім магутным вершы «Свайму Народу» (1918 г.) Купала даводзіў Беларусам наступнае аб бальшавіках:

«Чужак—дзікун, крывёю ўпіўшысь сьвежай,
Запрог цябе ў няволю. ў батракі
І тваю маці—бацькаўшчыну рэжа,
Жывую рве на часьці, на кускі
Сыноў тваіх расьсеяў па ўсім сьвеце,
Як пытушак ястраб з гнёздаў разагнаў:
Бацькі дзяцей, а бацькоў сваіх дзеці
Сярод магіл шукаюць і канаў.» [23])

Найвышэйшага, магутнага патрыятычнага ўздыму й мастацкага ўзроўню дасягае Купала ў сваім вершы «Паўстань з народу нашага...» (1919), дзе вялікі паэта—змагар выклікае з свайго народу спачатку Прарока, каб той паўстаў «зьняць путы бацькаўшчыне», — потым — Ваяка, каб выйшаў «свой край заваяваць», і нарэшце, зьвяртаецца да Уладара народнага, каб той зьявіўся «адбудаваць свой збураны пасад». [24])

Я. Колас таксама кліча свой народ на змаганьне з акупантамі роднае зямлі ў вершы—звароце «Беларускаму люду»:

«Нас падзялілі — хто? Чужаніцы,
Цёмных дарог махляры,
К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!
Нашы тут гоні, бары!

Будзем мы самі гаспадарамі,
Долі свае кавалі.
Досыць—жа, годзе панукаці намі,
Гнаць з нашай роднай зямлі!

Будзем мы самі гаспадарамі,
Будзем свой скарб ратаваць.
Годзе тэй крыўды! У ногу з братамі
Пойдзем наш край вызваляць». [25])

Пэрыяд НЭП-у быў адступленьнем бальшавікоў на ўсіх фронтах. Гэта было вялікае адступленьне і на фронце нацыянальным перад стыхійнай моцаю нацыянальнага—дэмакратычнага руху, калі саветам прышлося легалізаваць лібэральныя адносіны, уступкі «наццэмам». Апошнія ў сваю чаргу выкарыстоўвалі гэтую легалізацыю. У сваіх вершах таго часу Я. Купала зьвяртаецца да бальшавікоў:

«Былых ня выклічаш вякоў
І ты, Масквы кароннай гразь,
Парваных ня скуеш акоў,
Зь якой брахнёю ня вылазь! [26])

Вельмі цікава прывесьці тутака некаторыя крытычныя заўвагі бальшавіцкіх літаратураведаў, як яны ацэньвалі творчасьць Купалы й Коласа пэрыяду рэвалюцыі й НЭП-у. Я. Купалу называлі яны «рыцарам нацыяналістычнай контррэвалюцыі». [27]) Расейскі бальшавіцкі паэта Дзям'ян Бедны злобна пісаў аб Купале ў газэце «Правда»:

«Янкин голос соловьиный
Превратился в шип змеиный,
Да, в змеиный,
Да, в змеиный!» [28])

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# У паняволенай Беларусі

## НА КАЛГАСНЫХ СЕНАЖАЦЯХ

Ужо зь лютага месяца беларуская савецкая прэса ў парадку «крутога ўздыму жывёлагадоўлі» ды на заклік яшчэ не «зацьверджаных» дырэктываў XX-га зьезду партыі «палепшыць прыродныя лугі й пашы», пачала зьмяшчаць карэспандэнцыі на гэтую тэму. Ніжэй падаем колькі характэрных выпісак, з гэтае карэспандэнцыі, узятых толькі з аднаго нумару газэты «Зьвязда». Зь іх як нельга лепш відаць, якая вялікая апатыя пануе сярод беларускага сялянства ў адносінах да калгаснае зямлі, атрыманае «на вечнае карыстаньне».

### «ДЗЕ НАБЫЦЬ ПАТРЭБНЫ ІНВЭНТАР?»
### («Зьвязда», 3. 2. 56)

Асноўныя работы асушкі й асваеньня балот Ленінскага раёну выконваюцца машынамі ММС і МТС. Але такія работы, як апрацоўка канцоў калектараў і асушальнікаў, падчыстка канаваў, прыходзіцца выконваць уручную.

Вось тут і пачынаюцца пошукі інвэнтару. Часта навет нельга знайсьці рыдлёўкі. Звычайная штыкавая рыдлёўка не прыстасаваная для выйманьня крошкі торфу. Шуфеляў-жа ў продажы няма, яны чамусьці не выробляюцца мясцовай прамысловасьцяй. Нельга дастаць жалезных грабляў, кірак, кошак, ламоў, якія патрэбныя для прачышчэньня канаваў, зьнішчэньня купінаў ды карчоў. Гэтага інвэнтару няма ні ў гандлёвай сетцы, ні ў базах Сельгасснабу.

**М. Прысада,**
раённы мэліяратар Леніскага ваёну.

### «З ГОДУ Ў ГОД АДНО Й ТОЕ-Ж»
### («Зьвязда», 3. 2. 56)

Больш за 80% лугоў Хоцімскага раёну зарасло хмызьняком, пакрылася купінамі. Аднак упарадкаваньнем сенажацяў ніхто не займаецца. Не выкарыстоўваецца для гэтай мэты тэхніка Хоцімскай і Разальмоўскай МТС. І хоць іхныя кіраўнікі заключаюць з калгасамі ўмовы на ачышчэньне лугоў і пашы. аднак нічога ня робяць, каб выканаць іх. І гэта паўтараецца з году ў год.

### «НІ З КАСІЛЬКАЙ, НІ З КАСОЙ»
### («Зьвязда», 3. 2. 56)

Кажны год наш калгас заключае ўмову зь Віцебскай МТС на ўпарадкаваньне лугоў і пашы, але ўсё дарэмна. У час збору траў, на нашых лугох нельга прайсьці ні з касілкай, ні з касой — да таго яны зарасьлі хмызьняком. Таму і ўраджай сена вельмі нізкі.

**П. Куйко,** калгасьнік.

### «КУПІНЫ НА ЛУГОХ»
### («Зьвязда», 3. 2. 56)

(«Маяк» Хоцімскага раёну)

Кіраўніцтва нашага калгасу зусім не клапоціцца аб павышэньні ўрадлівасьці лугоў. За пасьляваенныя гады ў пойме Дняпра на сенажацях не праведзена ніводнага агратэхнічнага мерапрыемства. Лугі пакрыліся купінамі, зарасьлі мохам і даюць нізкі ўраджай.

**Е. Салдаценка,** аграном.

### «НЯ ЛЕПШ І Ў КАСЬЦЮКОВІЧАХ...»
### («Зьвязда», 3. 2. 56)

Вельмі нізкі ўраджай сена зьбіраюць калгасы Касьцюковіцкага раёну. Аднак бальшыня зь іх ніякай працы над упарадкаваньнем лугоў не праводзіць. Карысныя плошчы сенажацяў з кажным годам скарачаюцца.

**С. Андрэеў**

# «...Старая загадка»

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

тыя азначае зусім штось іншае ў лексыконе Масквы, чымся ў нашам.

Апрача асноўнай розьніцы ў палітычнай, эканамічнай і сацыяльнай сыстэмах, існуе цэлая **спадчына незразуменьня, што ўзьнікла больш з нацыянальнай, чымся ідэялягічнай практыкі** (падкрэсьленьні ў вартыкуле нашыя — Рэд.). Расейская традыцыя, якая станоўка адбілася на камунізме, гэтак-жа цяжка зразумелая для Амэрыканца, як ленінізм для пасьлядоўнікаў Джэфэрсона.

Гэта зьяўляецца найбольш відавочным пры аналізе назіраньняў розных нашых дыпляматаў у Расеі. Шмат якія дзяржаўныя мужы апублікавалі свае спасьцярогі. Але ніжэй пададзеныя спасьцярогі былі пададзены да ведама сакрэтна дзяржаўнаму сакратару адным з паслоў Задзіночаных Штатаў у Расеі:

«Я чуў пра шмат якіх Амэрыканцаў, якія не маглі атрымаць (расейскіх) візаў. Гэта тлумачыцца перадусім палітычнымі меркаваньнямі ды страхам перад большымі ўплывамі на настроі (расейскіх) **шырэйшых** масаў... Няма іншага народу, які больш патрабаваў-бы чужынцаў, чымся Расейцы, як і няма больш зайздроснага ў ваднесінах да чужынцаў. Гэтыя заўвагі адносяцца ня толькі да Амэрыканцаў. Наадварот — Амэрыканцы расцэньваюцца тут нароўні зь іншымі...

«Тут ніводная карэспадэнцыя грамадзкага характару не праходзіць бясьпечна праз пошту — яе проста адчыняюць і кантралююць, лічачы гэта за зьявішча само сабой зразумелае... Цэлая сыстэма шпіянажу бязупынна сочыць за чужаземнымі пасламі. Навет іхныя слугі змушаны даносіць аб усім тым, што здарылася ў іхным памешканьні — аб іхных гутарках, сувязях і гэтак далей.

«Вы ніколі ня звойдзеце дзьвюх асобаў, якія-б мелі тыя самыя весткі пра вялічыню арміі ці флёту ў Расеі, колькасьць дзяржаўнага доўгу або гадавога даходу. На маю думку, урад не жадае, каб гэтыя справы былі ведамыя (грамадзтву)... Сярод Расейцаў пашырана дзіўнае перакананьне, што яны прызначаны да заваяваньня сьвету... Гэтаму й прыпісваюць тую дзіўную цярплівасьць, якімі адзначаецца расейскі жаўнер сярод найгоршых нягодаў...

«Мэтазгоднасьць зьяўляецца вялікім выпрабаваньнем. Але што можа быць мэтазгодным сёньня, у дадзенай сытуацыі, можа быць немэтазгодным заўтра ў гэткай-жа сытуацыі.

«... Уплыў Расеі на рэшту Эўропы зьяўляецца непераможным, асабліва на нямецкія дзяржавы. Ейная вайсковая сіла ды ваенны дух зьяўляюцца сакрэтам гэтага ўплыву, успамаганага сыстэмай дыпляматыі, якая, можа, ня мае сабе роўнай...

«Тут адчуваецца цяжкая атмасфэра, і Амэрыканец знаходзіць шмат нагодаў дзеля выпрабаваньня свае цярплівасьці... Адна з найбольш няпрыемных рысаў, зь якой яму даводзіцца сустракацца, гэта таямнічасьць, зь якой тут усё праводзіцца. Ён рэдка атрымоўвае дакладныя весткі аб падзеях, пакуль яны не перастаюць быць актуальнымі, і ён можа быць пэўны, што кожны ягоны крок дакладна сочыцца вачыма, якіх ён ніколі ня бачыць...

«Усё абкружана фармальнасьцямі, і нельга нічога дабіцца бяз самай прыкрай валакіты. Магу сказаць тут, што апошняе пасланьне прэзыдэнта Задзіночаных Штатаў, як цэлае, было ўважана за небясьпечнае для расейскіх чытачоў і дайшло да іх у перакроеным відзе дзякуючы цэнзарскаму нажу.

«У шмат якіх выпадках, цяжка бачыць сэнс дзеяньня гэтае ўлады, але няма сумлеву, што часта яна бывае вельмі капрызнай...

«Усё гэта зьяўляецца найлепшай школай, якую толькі можна прыдумаць для амэрыканізаваньня нашых суродзічаў. Яны здабываюць магчымасьць бачыць свой собскі ўрад пры помачы закону кантрасту, ды назіраць за ім з новага гледзішча; я не зайздрошчу таму, хто пасьля ўсяго гэтага вернецца ў Амэрыку бяз большай прывязанасьці да нашага грамадзкага ладу».

Гэтыя спасьцярогі былі зроблены не Чарльзам Боленам, нашым сучасным (таланавітым) паслом у Маскве. **Яны былі перасланыя больш, чымся 100 гадоў таму амэрыканскім паслом у Пецярбурзе Нэйлам Браўнам.** Але спасьцярогі іх абодвых на дзіва так аднолькавыя, што чалавек мусіць задумацца, наколькі сучасная псыхалягічная розьніца паміж нашымі краінамі (гэта значыць Задзіночанымі Штатамі й Расеяй) вынікае з розьніцы ідэялёгіяў, ды наколькі яна паходзіць зь геаграфічнай і гістарычнай спадчыны, якой нельга зьверыцьі! Колькі цяжкасьцяў, пры ўзаемных адносінах, паходзіць ад Маркса й Леніна і колькі ад самое Маскоўшчыны?!

**ЯКУБ КОЛАС**

# У палескай глушы

12)

— Чакайце! — загарачыўся Саханюк. — На валасным сходзе была зроблена пастаноўка, каб на хатовіцкую школу давалі ссыпку. Ад вашага сяла мне належыць дванаццаць пудоў трыццаць фунтаў жыта. Ну? Я і маю поўнае права ўзяць сваё.

— Выбачайце! А калі была зроблена такая пастанова? Напэўна тады, калі Цельшына ня мела свае школы? А раз гэта школа цяпер ёсьць, то было-б па меншай меры сьмешна браць ссыпку ад свае школы і даваць у чужую. І наогул гэта справа такая простая і відавочная, што і дзіця зразумее ўсю недарэчнасьць вашага дамаганьня.

Саханюк ніколечкі не пакрыўдзіўся.

— Я грунтуюся на цыркуляры дырэкцыі народных вучылішчаў, які зазначае, што раз была пастанова валаснога сходу даваць ссыпку, дык ваша вёска ня мае права яе адабраць. Вось чаму я й прыехаў забраць гэту ссыпку.

— Але вы яе не атрымаеце.

— Вазьму!

— Ня возьмеце!

Колькі хвілін Лабановіч узіраўся ў Саханюка. Саханюк таксама глядзеў на калегу. У яго жаўтаватых вачох блукаў нявінны сьмех.

— Ведаеце што, — прамовіў Лабановіч. — Мне не шкада гэтае ссыпкі, Бог зь ёю. Аднак, калі пайшло ўжо на рызыку, магу вас ня толькі запэўніць, але й переразапэўніць, што вы адгэтуль ня возьмеце ні аднюсенькага зярнятка.

— Ну, пабачым, — сказаў Саханюк.

— Нічога вы не пабачыце!

У самы разгар спрэчкі рыпнулі дзьверы з кухні. Старожка прасунула галаву.

— Вось, панічыку, вам грошы: нідзе не дастала! Была і ў Лявона, і ў Губаровых — няма.

— Ну, то давай будзем абедаць.

Саханюк адмовіўся абедаць. Ён прыехаў сюды з Дубейкам і ўмовіўся зь ім па дарозе заехаць на пачастунак. Куды, Саханюк не сказаў. Цяпер-жа ён мусіць ехаць, бо Дубейка ў старасты яго напэўна ўжо чакае.

Саханюк разьвітаўся з калегам, заклікаючы яго да сябе ў госьці.

— Дзякую, — сказаў Лабановіч, — але, калега, майце на ўвазе, што ссыпкі вы не атрымаеце.

— Буду судзіцца, — не адступаўся Саханюк: — Вось прыеду і земскаму жалабу падам на вашага старасту.

Пад вечар таго-ж самага дня староста сабраў гарцы і прывёз іх Лабановічу.

— Што, панічок, звар'яцеў ён ці што? Як-то мы аддамо яму ссыпку, калі ў нас ёсьць свой настаўнік!

У старасты быў важны начальніцкі выгляд і пачуцьцё выпаўненага абавязку перад школай і настаўнікам.

— Хоць-бы ён пасаромеўся, — абурліва гаварыла бабка: — Як гэта можна забраць ссыпку з чужое школы?

Бабка была зацікаўлена ў гэтай ссыпцы, бо і ёй належала некаторая частка гарцаў.

XX

Панна Ядвіся была ў нязвычайна вясёлым настроі. Яна і малая Габрынька пойдуць заўтра на разьезд, сядуць на машыну й паедуць у госьці. У Горадзеншчыне ў іх былі сваякі, і татка дазволіў паехаць туды тыдні на два пагасьцяваць. Габрынька кружылася каля мачыхі, жартавала, сьмяялася такім вясёлым дзіцячым сьмехам, што навет пераважна смутная і заклапочаная пані падлоўчая не магла захаваць свайго звычайнага настрою і таксама сьмяялася.

— Адстань, адстань: ты ўжо ня дзіця.

Пані падлоўчай, здавалася, было крыху нялоўка, што панна Габрынька так дурэе пры чужым чалавеку. А гэты чужы чалавек быў Лабановіч.

Але Габрынька не зварачала на гэта ўвагі. Яна выдумала кароценькі вершык і раз-по-раз деклямавала яго сваёй мачысе:

Мама така сьлічна,
Сьлепа, дыхавічна.

— От распуста, — ківала галавою пані падлоўчая, зварачаючыся да настаўніка.

— Я буду пісьменьніцай. Хачу напісаць аповесьць, як на Палесьсі жылі дзьве прыгожыя краскі-панны і што з гэтага выйшла, — сьмяялася Габрынька.

— А што з гэтага выйшла? — пацікавіўся Лабановіч.

— Выйшла тое, што ніхто не спадзяваўся! Гэтыя дзьве красуні пакахалі аднаго маладога паніча і кінуліся яму на шыю. А ён, небарака, з гора пайшоў і ўтапіўся ў Целяшовым Дубе.

— Габрынька, устыдзься! — прамовіла пані падлоўчая.

А Габрынька ўся хадзіла ад сьмеху. Таксама сьмяялася й панна Ядвіся, крыху засаромеўшыся такой непасрэднасьці, прастаты й сьмеласьці жартаў свае сястры.

— У вас, як бачна, ёсьць здольнасьці пісьменьніцы, — сьмяяўся й Лабановіч. — Але чаго-ж ён, гэты ваш паніч, тапіцца пашоў?

Габрынька хітра зірнула на сястру. Ядвіся, відавочна, зацікавілася яе жартам і, сьмяючыся, адказала за сястру:

— Мусіць, той паніч спалохаўся свайго шчасьця.

Нямаведама чаго, сёстры пераглядаліся й перасьмейваліся. Проста, ім было весела, іх цешыла й радавала гэта паездка, зьмена ўражаньняў, новыя месцы, новыя знаёмствы.

Лабановіч пачуў нейкае засмучэньне. Скуль яно, ён ня ведаў і сам. Ці не з таго, што панна Ядвіся так радуецца? Як відаць, яе нішто ня прымацоўвала тут, ніхто ня цікавіў, і яна зь лёгкім сэрцам гатова была зьмяняць гэту глуш Палесься на кажнае новае месца, бо сэрца яе было вольнае, а можа, шукала другога сэрца, каб забіцца яму ў вадзін тон? А можа, гэта сэрца было ўжо там?

І пачуваньне адзіноты закралася ў душу настаўніка: ён тут — чужы і лішні. І сьмешнымі цяпер здаліся тыя думкі, якія яшчэ так нядаўна цешылі яго маладое сэрца.

Пані падлоўчая выйшла. У пакоі засталіся адны дзяўчаты. Каля печы пад канапаю ляжаў стары Нэгрусь і зрэдку павільваў хвастом, калі міма яго праходзіла панна Ядвіся.

— Я ні разу ня бачыў вас у такім добрым гуморы, — сказаў да яе Лабановіч. — Вы сяньня такая вясёлая, як ніколі.

— А вы хацелі-б, каб я плакала? — спытала яна.

— Не, я гэтага зусім не хацеў-бы. Але, як я заўважаю, у вас тут няма нічога такога, аб чым вы маглі-б пашкадаваць. І калі-б вам напаткалася-б такое здарэньне, што вы маглі-б ніколі сюды не варочацца, вы і ніколечкі аб гэтым не пашкадавалі-б.

— О, не! — прамовіла панна Ядвіся.

На хвілінку яна як-бы аб чымсі задумалася. Твар яе стаў сур'ёзны. Але ў момант вока выраз яе перамяніўся, уваччу заблiскалі іскаркі сьмяшлівасьці й хітрасьці.

— О, не! Вы памыляецеся! — сказала яна. — У мяне тут ёсьць нехта такі, каго мне вельмі цяжка пакінуць і аб кім вельмі непакоіцца маё сэрца.

Лабановіч замёр у салодкім і разам трывожным чаканьні. Панна Ядвіся акінула яго бачлівым поглядам. Яна раптоўна ўсхапілася і накіравалася на Нэгруся.

*Куток мовы*

# Транскрыпцыя беларускіх назоваў і прозьвішчаў

Адным з нашых галоўных заданьняў — каторы раз паўтараецца ўжо гэта! — зьяўляецца інфармацыя заходняга сьвету аб Беларусі ды аб усім, што зь ёю зьвязана. Беларуская інфармацыйная акцыя ўжо ад каторага часу праводзіцца ў заходніх мовах, галоўным чынам — у ангельскай, францускай, нямецкай, італьянскай і гішпанскай. У гэтай працы даводзіцца пісаць аб Крывічох і Эўфрасіньні Полацкай, аб Наваградку й Прыпяці, аб Скарыне, Сапегу, Каліноўскім і г. д.

І вось тут, ува весь рост, перад намі ўздымаецца праблема транскрыпцыі. Як пісаць тое ці іншае прозьвішча або той ці іншы беларускі геаграфічны назоў у ангельскай, францускай, нямецкай і іншых мовах? Пісаць Bahuševič, Boguszewicz, Bahushevich, Bahuschewitsch, Bahouchevitch ці яшчэ як? А прозьвішча-ж адно!..

Перад тым, як адказаць на пытаньне «як трэба?», гляньма, як у нас ёсьць. Ужо на аснове тае невялікае колькасьці беларускіх публікацыяў у заходніх мовах, якія зьявіліся за апошняе дзесяцігодзьдзе, ды якія даступныя нам, трэба з жахам сьцьвердзіць, што ў нас валадарыць камплетнае бязладзьдзе, страшэнная непасьлядоўнасьць і першабытны хаос. Ад абсурдаў аж роіцца навет у самых паважных выданьнях. І ўжо найвышэйшая пара, каб хоць збольшага ўціхамірыць гэтую «транскрыпцыйную вайну», бо мы самі сабе робім вялікую шкоду ды часьценька не ўяўляем усіх прыкрых вынікаў лёгкадумства. Адкуль-жа хаос?

Вельмі проста. Адтуль, што адны трымаюцца фанэтычнае (гукавае) транскрыпцыі (яны пішуць: Yanka, Charnushevich, Schtschara і г. д.), а іншыя прыстасоўваюць транслітэрацыю, г. зн. пішуць беларускай лацініцай: Janka, Čarnuševič, Ščara і г. д.) з дыякрытычнымі значкамі ці бязь іх; часта гэта залежыць ад друкарні, а не ад выдаўцоў. Але было-б поўбяды, каб на гэтым справа канчалася. Транскрыпцыйнае бязладзьдзе паглыбляецца аднак тым, што, зь вельмі невялікімі выняткамі, у сярэдзіне аднаго прынцыпу, у ваднэй кніжцы ды на аднэй бачынцы, дапускаюцца недапушчальныя рэчы.

Прыкладам, калі др. Я. Станкевіч піша: «Навуковае Таварыства... Скарыны», дык мусіў-бы быць пасьлядоўным і ў пісаньні Скарыны паангельску — г. зн. пісаць «Skaryna», а не «Skoryna». Ён-жа ня піша паангельску «Smolensk», а «Smalensk» (Гл. ягоную «Ethnographical and Historical Territories...», New York, 1953, б. 11).

Калі аўтары брашуры «Bielorusia» (пагішпанску) пісалі «Usiaslau» (б. 24), дык мусілі-б пісаць «Usievalad», а не «Vsievalad» (б. 25 і інш.); калі пісалі «Jahajlo» дык-жа «Uladyslau», а не «Vladyslau» (б. 26). Калі аўтар брашуры «Biélorussie» (пафранцуску) пісаў «Sapieha», дык трэба было ставіць і «Leu», а ня «Lev» (б. 10) і, пішучы «Kastus Kalinouski», (б. 12), трэба было ўжо пісаць «Sierada», а не «Sereda» (б. 16).

Такімі прыкладамі можна было-б запоўніць увесь гэты нумар газэты, але й гэтых стае, каб пераканацца, што парадку ў нашай транскрыпцыі няма ніякага.

Між іншага, тут нельга не зьвярнуць увагі на адно зьявішча, што бярэ свой пачатак дзесьці ў сутонных закутках нашых нацыянальных камплексаў. Рэч у тым, што часта мы перадаем беларускія прозьвішчы й назовы ў заходнія мовы, ні дай ні падзі, праз пасярэдніцва расейскае ці польскае моваў, прыкра калечачы пры гэтым свае собскія вартасьці.

Гэтак, прыкладам, у брашурцы «Byelorussia under Russian Occupation», выдадзенай ЗБВБ у Лёндыне ў 1949 г., стаіць: «Ignatovski» (замест «Ihnatouski»). У «Ведзе» (гадавік за 1951 год) на бач. 89, у рэзумэ паангельску, пададзена чамусьці «Vovkovysk» (замест «Vaukavysk»), «Novhorodok» (замест «Nouharadak»). «Mindovh» (замест «Mindouh»); там-жа на бач. 106 — «Starodub» (замест «Staradub»), «Novozybkov» (замест «Novazybkau») і г. д. Побач з гэтым у тэй-жа «Ведзе» знаходзім цэлы шэраг прыкладаў правільнае транскрыпцыі. У № 3 (24) «Беларускага Слова» (сакавік 1955) зьмешчаны «Memorandum» з подпісам «Ostrowski». Але пашто было браць чужую (і варожую!) транскрыпцыю? Тым больш, што ў гэтым-жа нумары газэты пад «Адозвай» падпісаны ўжо «Астроўскі», а не «Островскі».

Падобных прыкрых балячак нам пара было-б ужо пазбыцца!..

Назіраецца ў нас таксама яшчэ адна дзіўная манера «ашляхочвацца» ў заходніх мовах. Якая карысьць, прыкладам, «Сядуру» пераліцоўваць на «Seduro» (замест «Siadura»)? Такая «транскрыпцыя» ня мае найменшае патрэбы ні апраўданьня. У бібліяграфічным-жа дачыненьні гэта ўносіць шкодную блытаніну. Напрыклад, у бібліятэчных каталёгах (і ў публікацыях) «Siadura — Беларус» пойдзе ў вадно месца, «Seduro — Амэрыканец» — у другое, а «Сиадуро—Расеец» — у трэйцяе. Якім чынам неабазнаны шукальнік прац гэтага аўтара павінен дагадацца, што адну й тую-ж асобу трэба шукаць у трох розных месцах?

Абедва прынцыпы транскрыпцыі — марфалягічны й транслітэрацыйны — маюць свае добрыя й благія бакі. Мы

(Заканчэньне на 4-ай бач.)

# Нацыянальныя вызвольн -адраджэнскія ідэі...

Крытык Бэндэ пісаў пра Купалу ў 1930 г. наступнае:

«Будучыня Беларусі марылася паэту не як сацыялістычная Беларусь, а як дэмакратычная дзяржава беларускага народу. Ідэял будучыні Беларусі Купалы ня выходзіў з рамак буржуазна-дэмакратычнай дзяржаўнасьці ў нацыянальнай афарбоўцы».[29])

Адзін зь кіраўнікоў ЦК КПБ, Дзякаў, у 1932 г. характарызаваў Купалу, як падпаўшага «пад уплыў беларускага буржуазнага нацыяналізму», апынуўшымся «у палоне буржуазных беларускіх нацыяналістаў, якія зрабілі ўсё магчымае, каб зацягнуць паэту варожым рэвалюцыі

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

павуціньнем, трымаць яго ў сваіх контррэвалюцыйных лапах».[30])

Літаратурная савецкая энцыкляпэдыя даводзіць, што:

«Палітычныя ідэалы Купалы ня выходзяць з рамак нацыяналізму й буржуазнага дэмакратызму «нашаніўцаў»... У творчасьці паэты пераважае нацыяналістычная вясковая абмежаванасьць; Купала супрацьставіць селяніна — гораду, Беларуса — небеларусу, ідэялізуе патрыярхальна-фэадальнае мінулае Беларуска—Літоўскай Русі часоў «войска Ўсяслава», абараняе «самабытнасьць беларускага народу» і затушоўвае клясавую барацьбу на Беларусі... У першых пасьлярэвалюцыйных вершах (1918) Я. Купала ўвесь у палоне беларускага нацыяналізму. Гэты працяглы й хвараблівы пэрыяд у творчасьці Купалы завяршыўся актыўна нацыяналістычнай драмай «Тутэйшыя» (1922)... Творчасьць Купалы... або выражае ідэялёгію часткі дробнай буржуазіі і гарадзкой нацыянальнай інтэлігенцыі, ...або адлюстроўвае буржуазна-кулацкія нацыяналістычныя настроі».[31])

У той-жа энцыкляпэдыі абвінавачаны ў «надцэмаўшчыне» быў і Я. Колас. У ягонай паэме «Сымон Музыка» была выкрыта буржуазна-нашаніўская ідэя аб мэсыянскай ролі беларускай інтэлігенцыі; у зборніку вершаў «Водгульле» — «цэлы шэраг варожых выпадаў супраць савецкай ўлады». Яму закідваецца, што ён доўгі час стаяў у баку ад савецкай тэматыкі, што ў «Сымоне Музыку» ідэялізуе мінулае Беларусі, падае «сэнтымэнтальна-народніцкія й этнаграфічныя настроі».[31]).

Савецкія крытыкі з часапісу «Полымя Рэвалюцыі» пісалі пра Коласа наступнае:

«Колас знаходзячыся ў палоне буржуазна-лібэральных, нацыяналістычных ідэяў «Нашай Нівы», разглядае барацьбу за нацыянальнае вызваленьне, як шавіністычную барацьбу між народамі. У паэме «Новая Зямля» ў некаторых лірычных адступленьнях Колас гаворыць пра сваю бязьмежную любоў да... роднага краю...», якая «становіцца зброяй у руках ворагаў радзімы — буржуазных нацыяналістых».[23]

Крытык Бэндэ, пішучы пра Коласа, зазначаў, што:

«Апяваючы „Родныя малюнкі", Якуб Колас перамогу рабочае клясы й устанаўленьне пралетарскай дыктатуры на Беларусі ўспрыймае як зьмену аднаго прыгнятацеля другім, як працягваньне старой песьні:

Кавалі другія,
А ланцуг той самы —
Песьні ўсё старыя
Неаджытай гамы»[33])

Гэтак трывалі й мужна вялі актыўную барацьбу судраць бальшавізму два волаты беларускай нацыянальнай культуры — Янка Купала й Якуб Колас — будучы вернымі нацыянальна-вызвольнаму руху.[34])

---

[17]) «Правда», 21. 8. 1946.

[18] Асабліва вылучаўся тутака аматарскі тэатр К. Буйніцкага, створаны ў Вільні, што аб'ехаў з нацыяльнымі беларускімі выступамі значную частку беларускае тэрыторыі, усюды выклікаючы нацыянальны энтузіязм.

[19]) Ант. Адамовіч, Якуб Колас у супраціве саветызацыі. Мюнхен, 1955, б. 22.

[20] Я. Менскі. Чаму ды як была ўтв раная Беларуская ССР. «Белару Зборнік», Мюнхэн, 1955, кн. I, б. 18.

[21]) Ант. Адамовіч. Цыт. праца, б. 22.

[22]) Я. Купала. Наша гаспадарка — верш, 1918 г. Газэта «Беларус» Нью Ёрк, 1952 № 5/II.

[23]) Я. Купала. Свайму народу — верш, 1918, Спадчына, Менск, 1922.

[24]) Я. Купала. Паўстань зь народу нашага... — перш, 1919 Спадчына, Нью Ёрк—Мюнхэн, 1955.

[25]) Я. Колас, Беларускаму люду — верш 1921. Цытуецца паводля часапісу «Са кавік», 1947, № 1, б. 56.

[26]) Я. Купала. Акоў паломаных жаь дар... верш, 1926 г. Спадчына. Нью Ёрк—Мюнхэн, 1955.

[27]) Я. Менскі. Чаму ды як была ўтвораная Беларуская ССР. «Беларускі Зборнік», кн. I, б. 27.

[28]) Цытуецца паводля «Шыпшыны» 1950, № 9, б. 40.

[29]) Цыт. паводля газэты «Беларус» Нью Ёрк, 1952, № 5/II.

[30] Там-жа.

[31] Литературная Энциклопедия, Масква, 1931, т. 5, б. 733—734.

[32] Там-жа, 1934, т. 7.

(Далей будзе)

Мікола Кулікові̇ч



Прыдарожны крыж у Браслаўшчыне — Із збору др. Гоція

— Нэгрусь, мілы мой Нэгрусь! — казала яна і лашчыла сабаку, прытуліўшы да яго сваю шчаку: — Мы разлучымся з табою на цэлыя два тыдні!

— Тым прыемней будзе часіна спатканьня пасьля разлукі, — сказаў Лабановіч і ўстаў. Ну, жычу вам усяго найлепшага: шчасьліва заехаць, весела гуляць і лёгка перанесьці разлуку з тым, аб кім так непакоіцца ваша сэрца.

Гаворачы гэта, Лабановіч чуў нейкую крыўду, і, як ні сіліўся захаваць яе, гэта крыўда вызначалася на яго твары.

— Куды-ж вы? — спытала Ядвіся.

— У мяне, бачыце, ёсьць адна работа. Вам-жа трэба зьбірацца ў дарогу — ня буду вам занімаць... Бывайце здаровы!

Ядвіся нічога не сказала. Яна толькі вінавата і як-бы пужліва заглядала яму ў вочы. Можа, яна каялася ў сваім апошнім, праўда, грубаватым жарце, але прызнацца ў гэтым чамусь не хацела.

— А можа, вы заўтра пройдзецеся з намі на разьезд? — спытала Лабановіча Габрынька.

— Нашто турбуваць пана настаўніка? — прамовіла Ядвіся. Татка заўсёды пасылае з намі лясьніка Рыгора.

Што гэта? Новая абраза, ці панна Ядвіся проста ня хоча яго кампаніі? А можа, яна ня хоча мець сьветку свайго спатканьня з Сухаваравым?

Вясёлы настрой пакінуў Ядвісю, і яна засталася маўклівай, замкнёнаю.

— Зразумела, — сказаў Лабановіч, — панне Ядвісі будзе шмат прыемней пайсьці ў кампаніі Рыгора і Нэгруся, які напэўна сам назавецца ў праважатыя.

Пачуўшы сваё імя, Нэгрусь у здаваленьні колькі разоў вільнуў хвастом.

Лабановіч разьвітаўся і вышаў. На душы ў яго было цяжка і смутна. Ясна, што Ядвіся насьміхаецца зь яго. А калі і зварачала на яго ўвагу, то толькі з тае прычыны, што тут — глуш, жывога чалавека няма. А ён, як неразумнае дзіця, ня бачыць нічога. Ён сам наводзіў на сябе прыемны туман самазманства, ён сам закалыхваў сябе ружовымі думкамі і салодкім лятуценьнем. Ну, што-ж? Трэба глыбей увайсьці ў сябе і там шукаць крыніц радасьці і здаровага пачуцьця. І трэба, наогул, узяць сябе ў рукі. Пара яму выкінуць усё гэта з галавы і сэрца, пакуль вобраз дзяўчыны яшчэ не засеў там настолькі глыбока, што зь ім будзе трудна змагацца. Няхай не падумае яна, што яму безь яе сьвет зачынены.

Колькі разоў прайшоўся Лабановіч па сваім пакоіку.

«Не, — думаў ён, — гэтак далей жыць нельга. Апрача школы і чыста асабістых інтарэсаў, ёсьць яшчэ і другія — чыста грамадзянскія абавязкі. Трэба бліжэй стаць да народу, прыглядзецца, як ён жыве і чым ён жыве. Трэба пашырыць рамкі свае работы, трэба вынесьці гэту работу за межы чыста школьных пытаньняў».

Лабановіч накіраваўся ў школу, падыйшоў да кніжнае шафы. На адной палічцы стаяла колькі дзесяткаў тоненькіх кніжачак спэцыяльна для народу. Выданьні гэтыя былі шчупленькія і наогул пустыя. Тут пераважна былі кніжачкі, выданыя рознымі камітэтамі і гурткамі цьвярозацьці, або сынодзкія выданьні. Разгледзеўшы гэту кніжніцу, Лабановіч нічога не знайшоў у ёй цікавага, асабліва для тутэйшага насельніцтва, і вырашыў выбраць больш цікавую на яго погляд тэму для гутаркі з паляшукамі. Аб чымжа гутарыць? Трэба зьвярнуць увагу на сялянскі побыт, паказаць сялянам, як жывуць другія людзі і як яны дайшлі да лепшага стану жыцьця.

Лабановіч усё больш і больш захопліваўся сваёю тэмаю. У галаве складаўся плян прамовы і вынікалі ў яго ўяўленьні ўсё новыя й новыя факты. Ён зачыніў шафу, пайшоў у свой пакоік і сеў за стол, каб зрабіць накід пляну прамовы.

На гэты час увайшла бабка.

— А вы, панічок, усё пішаце.

— Пішу, бабка.

— А ці чулі вы, панічыку, што Курульчука перамяшчаюць ад нас?

— Перамяшчаюць? — спытаў Лабановіч. — Чаму-ж яго перамяшчаюць?

Лабановіч задумаўся. Яму стала чагось шкада. Нейкая адзінота ахапіла яго, і гэты цесны краявід, здавалася, яшчэ звузіўся й став больш цесным.

— Нелады ў іх з дарожным майстрам, — растлумачыла старожка прычыну выезду Курульчука.

## XXI

Прайшоў нейкі час.

Малады настаўнік шмат перажыў, перадумаў. Цэлыя вечары праседжваў ён у сялянскіх хатах, прыглядаючыся да жыцьця паляшукоў Яго тут прымалі і спатыкалі прыветна, з ахвотаю падтрымлівалі гутарку аб розных справах. Але гэтыя гутаркі ня выходзілі за межы тых пытаньняў, якія закранаў сам настаўнік, бо паляшукі — людзі паважныя, сталыя, асьцярожныя, не адразу і ня кажнаму расчыняюць сваю душу, бо ўжо, мусіць, сама прырода Палесься палажыла на іх сваю адзнаку. Бясконцыя балоты вучылі іх мудраму разважаньню, мора лясоў выхоўвала ў іх засьцярогу, бо так лёгка тут напаткаць небясьпеку: на зьвера натрапіць, згубіць дарогу або папасьціся ў рукі сярдзітым лясьніком графа Патоцкага. І толькі выпадкова ўдавалася пачуць якое-небудзь няўмысьля ўроненае сакавітае слова, прыказку або цікавае параўнаньне. Старыя, аздобленыя сівізною, маршчынамі і пачэснымі лысінамі дзяды, жывыя летапісы цельшынскай гісторыі на працягу многіх дзесяткаў гадоў, дадушы падабаліся Лабановічу. Гэта былі тыя слупы, тыя падмуркі, на якіх трымаліся традыцыі сялянскай старажытнасьці. Гэта былі самавукі-аграномы, тлумачальнікі розных прыгод жыцьця. Яны ведалі, у які дзень, у якую навет часіну трэба выязджаць з сахою на поле, пры якіх умовах трэба сеяць тую ці іншую збажыну. Ім досыць пабачыць першы вырай жураўоў, каб сказаць, які будзе авёс. У залежнасьці ад вышыні лёту знаходзіўся і рост аўса: высока ляціць вырай — высокі вырасьце і авёс. Кажны такі дзед меў свой асаблівы, выразны твар.

Вось хоць-бы гэты дзед Мікіта. Сівы, як голуб. Войстры пагляд, калючыя вочы, гатовыя пранізаць. Старасьць прыгнула яго крэпкі стан і кінула на твар і на высокі лоб цэлую сетку маршчын. Але што за дока быў дзед Мікіта ў маладыя гады! І ня было ў сяле роўнага яму. Такія штукі выкідваў дзед Мікіта, якіх цяпер ніхто не патрапіць, бо хіба цяпер такі народ? Ды што маладыя гады? Навет і зараз, ня гледзячы на свае восемдзесят год, дзед Мікіта за пояс маладога заткне. Вось толькі няхай падгуляе, няхай ачнецца ў ім яго маладая бунтоўная кроў, — ня выцярпіць прасуне рукі ў камяні-жарнавікі і пойдзе з гэтымі камянямі, як зь лёгкімі кацёлкамі, упрысядкі па хаце. І цяпер яшчэ баяцца дзеда Мікіты, бо ён — знахар-чараўнік, хоць знахарствам не займаецца; але калі хто ўгневіць дзеда, тады пазнае ён сілу дзедавых чараў. Мікіта — чалавек нялюдзімы, удзень яго бадай што і не спаткаеш на людзях, і жыве ён адзін, як воўк, даўно пахаваўшы сваю старую і адбіўшыся ад дзяцей.

Дзед Мікіта і іншыя роданачальнікі Цельшына дабрахоць уступілі свае правы больш маладым і здаровым, самі-ж ужо стаялі збоку ад грамадзкіх спраў. Першае: яны ўжо ўнесьлі свае падаткі грамадзкаму будаўніцтву; другое: як ні ціха, як ні малярухома было вясковае жыцьцё, але старыя прадстаўнікі яго, дзяды-паляшукі, знаходзілі ў ім цяпер многа чаго такога, што не адпавядала іх паглядам. І толькі ўжо ў нязвычайна важных выпадках прымалі яны ўдзел.

(Далей будзе)

